# БЮЛЕТЭНЬ

Беларускага рэспубліканскага камітэту прафэсыянальнага саюзу рабочых жывёлагадоўчых саўгасаў С. С. С. Р.

ВЫХОДЗІЦЬ ДВА РАЗЫ Ў МЕСЯЦ

Менск, Пляц волі,
— Дом працы —

ТЭЛЕФОН:
№ 4-08
Адказны рэдактар

№ 13 — 30-га сакавіка 1932 г. — № 13



ЗЬМЕСТ.

## ПАСТАНОВА

**1-й Усебеларускай канфэрэнцыі саюзу рабочых жывёлагадоўчых саўгасаў аб сацыяльна-бытавым і культурным абслугоўваньні саўгаскіх рабочых**

*Ад 18-19-га лютага 1932 году*

Першая Ўсебеларуская канфэрэнцыя саюзу РЖС адзначае некаторае палепшаньне ў справе сацыяльна-бытавога і культурнага абслугоўваньня рабочых і ІТР саўгасаў. Падвысілася зарплата рабочых і ІТР. Уцягнуты ў вытворчасьць саўгасаў працаздольныя члены сем'яў рабочых. Значна павялічылася капіталаўкладаньне ў жыльлёвае і сацыяльна-бытавое будаўніцтва. Толькі за адзін 1931 г. пабудавана 219 дамоў, 50 баракаў, 18 лазьняў, 7 школ. Маюцца 232 сталоўкі, якімі ахоплены амаль на 100 проц. рабочыя-адзіночкі і на 42 проц. сямейныя рабочыя саўгасаў. Арганізавана 96 адкормачных пунктаў і мяса-малочных фэрм, з колькасьцю ў іх—1008 сьвіней, 496 кароў і 180 шт. рознага маладняка. Адчынена 55 рабкоопаў, амаль ва ўсіх саўгасах маюцца зачыненыя разьмеркавацелі.

*Канфэрэнцыя з усёй сілай* і катэгарычнасьцю падкрэсьлівае, што дырэктывы *Кастрычнікаўскага Пленуму ЦК УсеКП(б), 6-га пленуму УсеЦСПС і пастановы XIV зьезду КП(б)Б* аб далейшым палепшаньні сацыяльна-бытавых і культурных умоў рабочых і ІТР *вельмі марудна і зусім нездавальняюча* ажыцьцяўляюцца ў практычнай штодзённай рабоце ўсіх прафсаюзных, гаспадарчых і каапэрацыйных арганізацый зьверху і да нізу.

*Буржуазныя тэндэнцыі,* дапушчаныя ў жывёлагадоўчых саўгасах, выявіліся і ў штучным павялічэньні колькасьці забясьпечваемых рабочых пры адначасовым разбазарваньні таварнай прадукцыі (хлеб, мяса, малако), што адмоўна адбівалася на выкананьні прамфінпляну і забесьпячэньні рабочых. Справа далейшага палепшаньня сацыяльна-бытавых і культурных умоў рабочых і ІТР саўгасаў, а таксама

і студэнцтва жывёлагадоўчых ВНУ і тэхнікумаў не пастаўлена на належную вышыню, як адна з важнейшых задач у барацьбе за пасьпяховае выкананьне прамфінплянаў.

*Жыльлёвыя ўмовы* саўгаскіх рабочых і ІТР яшчэ і да гэтага часу *вельмі цяжкія*, каля 40 проц. усіх рабочых ня маюць яшчэ кватэр, а пляны жыльлёвага будаўніцтва *ня выконваюцца. Грамадзкае харчаваньне пастаўлена далёка нездавальняюча,* усё яшчэ нізкая якасьць абедаў і высокая каштоўнасьць іх. Арганізацыя сьвінаадкормачных пунктаў, мяса-малочных фэрм і рабочых гарадоў разгортваецца *недапушчальна марудным тэмпамі* і недаацэньваецца трыкутнікамі саўгасаў, як адна з рашаючых умоў па паляпшэньні рабочага забесьпячэньня. *Забесьпячэньне саўгасаў прамтаварамі праводзіцца злачынна кепска:* вызначаныя прамтаварныя фонды не даходзяць да саўгасаў, яны абязьлічваюцца, затрымліваюцца райсаюзамі, сельпо, накіроўваюцца па іншых каналах, толькі не для саўгаскіх рабочых. *Пераважнае забесьпячэньне ўдарнікаў і рабочых вядучых прафэсый у большасьці саўгасаў адсутнічае.* Арганізаваная аўтаномная саўгаская сэкцыя пры Белкаапсаюзе *працуе зусім нездавальняюча,* яна ня мае сталага *торгфінпляну,* не распрацавала парадку абслугоўваньня саўгасаў і не разгарнула работы па мабілізацыі сродкаў і ўняплянавых закупках і нарыхтоўках. Каапэратывы саўгасаў таксама працуюць *вельмі дрэнна,* а рабачкомы слаба дапамагаюць ім.

Выходзячы з указаньняў т. Сталіна, што *„цяперашні рабочы, наш савецкі рабочы хоча жыць з пакрыцьцём усіх сваіх матар'яльных і культурных запатрабаваньняў, і ў сэнсе харчовага забесьпячэньня, і ў сэнсе жыльля, і ў сэнсе забесьпячэньня культурных і ўсялякіх інтых запатрабаваньняў. Ён мае на гэта права і мы абавязаны забясьпечыць яму гэтыя ўмовы“*. Канфэрэнцыя безадкладна патрабуе ад усіх прафсаюзных, гаспадарчых і каапэрацыйных арганізацый *рашучага пераломy* ў справе далейшага палепшаньня сацыяльна-бытавых і культурных умоў рабочых

і ІТР і прапануе правесьці наступныя практычныя мерапрыемствы:

## I. Па грамадзкім харчаваньні.

1) *Усім рабачкомам правесьці масавую растлумачальную работу па ўнясеньні кожным рабочым па 20-25 руб., як мэтавага зваротнага авансу, і на працягу сакавіка месяца ў кожным саўгасе* пры сталоўках *арганізаваць* сьвінаадкормачны пункт з тым разьлікам, каб ён на працягу году даў на кожныя 6 рабочых ня менш аднэй адкормленай сьвіньні (6—8 пудоў). Арганізаваць у саўгасах мясамалочныя фэрмы з разьліку на 10 рабочых—адна карова. Камплектаваньне сьвінаадкормачнікаў і мяса-малочных фэрм правесьці шляхам пакупкі жывёлы ў калгасах, сялян і рабочых саўгасаў. Рэспубліканскаму камітэту саюзу рашуча *паставіць пытаньне перад трэстамі і каапэрацыяй* аб выдзяленьні імі адпаведных сродкаў на гэту справу.

2) *Безадкладна прыступіць да падрыхтоўчай работы па арганізацыі ў саўгасах грамадзкіх рабочых гародаў* з тым разьлікам, каб ад яго ўраджаю кожны рабочы атрымаў ня менш 2,5 або 3-х цэнтнэраў рознай гароднiны.

Рабачкомам зараз-жа прыступіць да складаньня рабочых канкрэтных плянаў па гародах і загатоўцы адпаведнага насеньня.

Дырэктарам саўгасаў *адвесьці зямельныя вучасткі* і аказаць на дагаворных пачатках дапамогу цягавай сілай, с.-г. інвэнтаром і насеньнем.

3) Аўтаномнай саўгаскай сэкцыі сумесна з Рэспубліканскім камітэтам і трэстамі *да 10 сакавіка распрацаваць канкрэтны плян па арганізацыі грамадзкага харчаваньня ў час веснавой сяўбы.*

4) На працягу сакавіка месяца *пераглядзець склад загадчыкаў сталовак,* умацаваўшы іх здольнымі працаўнікамі. Усе сталоўкі перавесьці *на гасразрахунак,* а працаўнікоў—*на зьдзельна-прэміяльную аплату працы.* Рашуча

абвясьціць барацьбу *за якасьць* абедаў, сьнеданьняў і вячэр. Устанавіць дакладную *падэкадную калькуляцыю* (улік) сабекошту харчаваньня і зьнізіць кошт абедаў, вячэр і сьнеданьняў да разьмераў, адпавядаючых сапраўднасьці, каб ад сталовак ня было прыбытку, а толькі пакрываўся сабекошт і аргр속ходы. *Ва ўсіх сталоўках увесьці сталы ўдарніка.* Рабочых-будаўнікоў саўгасаў па пытаньнях грамадзкага харчаваньня і забесьпячэньня прамтаварамі паставіць *нараўне* з рабочымі саўгасаў. Дабіцца таго, каб на кожным вучастку (аддзяленьні) саўгасу, дзе налічваецца 40-50 рабочых, была арганізавана сталоўка. Рабачкомам сумесна з каапэрацыяй распрацаваць плян арганізацыі буфэту і дадатковых ларкоў. Пры ўсіх сталоўках *ажывіць* работу сталовых камісій і арганізаваць сапраўдны рабочы кантроль над грамадзкім харчаваньнем. *Абвясьціць барацьбу з антысанітарным становішчам, за савецкую чыстату.* Прыняць усе захады да належнага забесьпячэньня сталовак адпаведным начыньнем і абсталяваньнем (лыжкі, начыньне, сталы, лаўкі, цыраты на сталы і г. д.). *Да 15-га сакавіка на ўсе сталоўкі павінны быць заключаны дагавары* паміж каапэрацыяй, адміністрацыяй саўгасаў і рабачкомамі з вызначэньнем канкрэтных абавязкаў кожным з іх у справе лепшай пастаноўкі грамадзкага харчаваньня.

## II. У галіне рабочага забесьпячэньня прамтаварамі

1) Рэспубліканскаму камітэту саюзу прыняць тэрміновыя захады па ўзмацненьні кіраўніцтва аўтаномнай саўгаскай сэкцыі здольнымі працаўнікамі. Рашуча *перабудаваць* работу сэкцыі ў напрамку канкрэтнай плянавасьці, ліквідацыі самацёку і праяўленьня яе ініцыятывы па разгортваньні *па-за плянавых закупак прамтавараў*.

2) З тэй прычыны, што спажывецкая каапэрацыя злачынна ігнаруе забесьпячэньне саўгаскіх рабочых, ІТР і студэнцтва прамтаварамі і прадуктамі харчаваньня, што вызначаемыя фонды для рабочых не даводзяцца да саўгасаў, ра-

шуча патрабаваць такога парадку прасоўваньня прамтавараў, каб яны (тавары) *накіроўваліся міма райсаюзаў і сельпо.*

*Для гэтага неабходна:*

а) Аўтаномнай саўгаскай сэкцыі ў хуткім часе *арганізаваць свае ўласныя базы*—у Менску, Віцебску, Воршы, Магілёве, Гомелі, Бабруйску і другіх буйных гарадох.

б) У буйныя саўгаскія рабкоопы тавары павінны накіроўвацца *транзітам* непасрэдна з фабрык і заводаў.

в) Саўгасы, якія блізка ляжаць да баз аўтаномнай сэкцыі, павінны атрымліваць *тавары непасрэдна з гэтых баз.*

г) Тавары для ўсіх астатніх саўгасаў (у тым ліку і дзе няма рабкоопаў) павінны *накіроўвацца ў апорныя базы,* якія арганізоўваюцца ў адным з саўгасаў кожнага адміністрацыйнага раёну, а з гэтых баз паступаюць у кожны саўгас, прымацаваны да гэтай апорнай базы.

3) Аўтаномнай саўгаскай сэкцыі пры актыўнай дапамозе рабачкомаў саўгасаў, *на працягу сакавіка месяца, скончыць арганізацыйнае афармленьне рабкоопаў пры ўсіх саўгасах,* дзе налічваецца *ня менш 200 чалавек* сталых рабочых. Работу ўсіх рабкоопаў перавесьці на гасразрахунак. Упарадкаваць усю справаздачнасьць і ўлік работы рабкоопаў. Рашуча *абвясьціць барацьбу з злоўжываньнямі і безгаспадарчасьцю ў рабочых каапэратывах саўгасаў.*

4) Саўгаскай аўтаномнай сэкцыі распрацаваць канкрэтны плян арганізацыі *курсаў* па падрыхтоўцы работнікаў каапэрацыі саўгасаў і дапаможных прадпрыемстваў яе і безадкладна прыступіць да правядзеньня гэтага пляну ў жыцьцё.

5) Рабачкомам саўгасаў узмацніць усе рабкоопы і закрытыя разьмеркавальнікі саўгасаў здольнымі працаўнікамі.

6) Рабачкомам саўгасаў разгарнуць шырокую масавую работу *па поўным каапэраваньні* рабочых саўгасаў, зборы мэтавых рабочых грашовых авансаў і 100 проц. зборы паявых капіталаў.

7) Абавязаць усе рабочыя камітэты саўгасаў устанавіць штодзенную практычную дапамогу ў рабоце саўгаскіх рабкоопаў і накіраваць іх увагу на максымальнае праяўленьне *ініцыятывы ў па-запланавых закупках прамтавараў, сельска-гаспадарчых прадуктаў* і іншых загатоўках. Дабіцца ад райснабаў *вылучэньня для рабкоопаў саўгасаў адпаведных зон для самазагатовак* па прыкладзе закрытых рабочых каапэратываў прамысловых прадпрыемстваў.

8) Саўгаскай сэкцыі сумесна з ЦБ Пралетстуда вырашыць пытаньне з адпаведнымі арганізацыямі *аб паляпшэньні забесьпячэньня студэнцтва* і арганізацыі *пры ўсіх ВНУ і буйных тэхнікумах* закрытых разьмеркавальнікаў для студэнцтва.

**III. Па жыльлёвым і сацыяльна-бытавым будаўніцтве.**

1) Канфэрэнцыя адзначае значны рост асыгнаваньняў у 1932 г. на жыльлёвае і сацыяльна-бытавое будаўніцтва ў жывёлагадоўчых саўгасах (каля 6 мільёнаў рублёў), што патрабуе ад усіх дырэктароў і рабачкомаў саўгасаў выключнай увагі і шырокай мабілізацыі ўсіх рабочых і ІТР на выкананьне прадугледжанага будаўніцтва *з максымальнай эфэктыўнасьцю* ўсіх укладаемых сродкаў, для чаго неабходна:

а) *Не дапусьціць памылак мінулага году,* калі жыльлёвая праграма была ня выканана, а ўся работа пушчана на самацёк, бескантрольнасьць будаўніцтва была вельмі высокая, а якасьць будаўніцтва дрэнная.

б) *Безадкладна прыступіць* да загатоўкі і вывазкі будаўнічых матар'ялаў на вызначаныя месцы будаўніцтва, максымальна выкарыстаць мясцовыя матар'ялы па замене дэфіцытных. Устанавіць канкрэтныя тэрміны сканчэньня будаўніцтва па кожным аб'екце. Наладзіць *рабочы грамадзкі кантроль* за сваячасовым выкананьнем праграмы будаўніцтва і яго якасьцю. Рашуча *ліквідаваць ураўнілаўку* ў прадстаўленьні кватэр. Выканаць дырэктывы аб *першачар-*

*говым забесьпячэньні жыльлём рабочых вядучых прафэсій, ударнікаў і ІТР*, замацаваўшых сябе на рабоце ў саўгасах. Будуючыяся кватэры раней замацаваць за адпаведнымі рабочымі, праз якіх арганізаваць дапамогу і кантроль за хутчэйшым і якасным сканчэньнем будаўніцтва.

в) Канфэрэнцыя даручае Рэсп. К-ту вырашыць пытаньне аб хутчэйшай арганізацыі *жыльлёва-будаўнічай каапэрацыі ў саўгасах* з тым, каб яна ўжо прыступіла да сваёй работы ў гэтым сэзоне.

г) Рабочым камітэтам разгарнуць масавую работу паходу за *культурнае жыльлё*, беражлівыя адносіны да кватэр і інтэрнатаў, рашучае правядзеньне чыстаты ў кватэрах і мясцох грамадзкага карыстаньня (клюб, сталоўка, яські і г. д.).

2) Канфэрэнцыя ўхваляе пастановы Рэсп. К-ту саюзу аб арганізацыі ў кожным саўгасе дзіцячых ясьляй і пляцовак і прапануе рабачкомам і дырэктарам саўгасаў зараз-жа вызначыць адпаведныя для іх памяшканьні і прыступіць да іх абсталяваньня. Саўгаскай аўтаномнай сэкцыі сваячасова вырашыць пытаньне аб парадку забесьпячэньня дзіцячых ясьляй прадуктамі харчаваньня. Рабачкомам і дырэкцыі саўгасаў *да 15-га сакавіка заключыць дагаворы з райздравамі* на арганізацыю ясьляй. Вылучэньне 700.000 руб. у 1932 г. на яські патрабуе ад усіх рабачкомаў вялікай работы па ясельнай кампаніі і арганізацыі шырокага рабочага кантролю над правільным іх скарыстаньнем.

3) Распрацаваныя Рэсп. К-там саюзу сумесна з НКАЗ мерапрыемствы аб паляпшэньні мэдычнага абслугоўваньня рабочых саўгасаў у 1932 г. (пабудова 8 больніц, арганізацыя 40 мэдпунктаў, 2 зубаўрачэбных габінэтаў, аптэк 200 і г. д.) патрабуюць ад усіх рабачкомаў і райздраваў безадкладнага ажыцьцяўленьня гэтых мерапрыемстваў па кожным саўгасе.

4) Аздаравіцельная работа па лініі пасылкі рабочых і ІТР саўгасаў на курорты, у санаторыі і ў дамы адпачынку яшчэ далёка не здавальняе запатрабаваньняў, што прад'яў-

ляюцца, а таму канфэрэнцыя даручае прэзыдыуму ўжыць усе захады да павялічэньня кантынгенту пасылаемых рабочых і ІТР і дабіцца ад Галоўсацстраху вылучэньня адпаведных пуцёвак для саюзу РЖС і ў першую чаргу для ўдарнікаў і рабочых вядучых прафэсій.

5) Канфэрэнцыя патрабуе ад трэстаў і дырэктараў саўгасаў сваячасовага і поўнага скарыстаньня ўсіх асыгнаваньняў, прадугледжаных прамфінплянамі на мерапрыемствы па ахове працы і тэхніцы бясьпекі. Рабочым камітэтам саўгасаў ня спыняцца перад аддачай суду вінаватых гаспадарнікаў у нескарыстаньні, або няправільным скарыстаньні адпушчаных для гэтай мэты грошай.

6) Канфэрэнцыя адзначае, што ўстаноўленыя нормы па забесьпячэньні спэцвопраткай рабочых саўгасаў і асабліва вядучых прафэсій ня выконваюцца, таму гаспадарнікам патрэбна зрабіць адпаведны перапом у гэтым напрамку і ліквідаваць ураўнілаўку—даваць усім па крысе, а ў першую чаргу забясьпечыць ударнікаў вядучых прафэсій. Рашуча павесьці барацьбу з безгаспадарчымі адносінамі паасобных груп рабочых да спэцвопраткі.

7) Невыкананьне прамфінплянаў у саўгасах у 1931 г., вялікія страты і безгаспадарчасьць, адсутнасьць кантролю за правільным скарыстаньнем фондаў зарплаты, нячулыя адносіны паасобных дырэктароў да рабочых, прывялі да канца 1931 г. да вялікай запазычанасьці па зарплаце рабочым (1.700 тысяч рублёў). Таму канфэрэнцыя папярэджвае ад паўтарэньня памылак мінулага году і патрабуе, не дапушчаючы іх (памылак), сваячасова выплачваць зарплату рабочым і ІТР саўгасаў.

8) Канфэрэнцыя патрабуе ад усіх рабачкомаў саўгасаў безадкладна ажывіць работу кас узаемадапамогі.

**1) У справе культурнага абслугоўваньня саўгасаў неабходна:**

а) Рабачкомам выканаць дырэктывы аб 100 проц. ліквідацыі няпісьменнасьці і малапісьменнасьці да 1 мая 1932 г.

б) Праверыць наколькі ахоплены дзеці рабочых школамі і на 100 проц. уцягнуць увесь школьны ўзрост у школы.

в) Усю культурна-масавую работу саўгасаў перабудаваць, падпарадкаваўшы яе задачам выкананьня прамфінпляпаў, здачы таварнай прадукцыі і выхаваньня сьвядома сацыялістычных адносін да працы ўсіх рабочых сагасаў і асабліва новых.

г) Максымальна разгарнуць праф. і партвучобу і работу па ауладаньні тэхнікай, згодна раней даных дырэктыў.

д) Папоўніць саўгаскія бібліятэкі адпаведнай літаратурай.

е) Рэспубліканскаму камітэту распрацаваць канкрэтны плян кіноабслугоўваньня саўгасаў, наладжаньня радыё і яго скарыстаньня і радыёфікацыі новых саўгасаў і рабочых кватэр.

---

## ПАСТАНОВА

**першай усебеларускай канфэрэнцыі саюзу РЖС па дакладу трэстаў: Сьвінавод, Белмалпрамтрэсту і Птушкакрольчатага трэсту**

**аб ходзе падрыхтоўкі да веснавой сяўбы 1932 г. і мерапрыемствах па ўзьняцьці ўраджайнасьці ў саўгасах.**

**ад 18-19-га лютага 1932 г.**

1. Пасьпяховае вырашэньне пастаўленых партыяй і ўрадам задач па далейшым разгортваньні і замацаваньні сацыялістычнай жывёлагадоўлі ў значнай ступені залежыць ад пасьпяховага правядзеньня 3-й бальшавіцкай сяўбы і адпаведнага з гэтым вырашэньня кармовага пытаньня па поўным забесьпячэньні грубымі і сакавітымі кармамі жывёлы на стойлавы пэрыяд 1932-33 г.

2. Канфэрэнцыя звярачвае асаблівую ўвагу трэстаў і саўгасаў на недапушчэньне памылак сяўбы 1931 г., патра-

буючы самым рашучым чынам накіраваць усю падрыхтоўчую работу гаспадарчых і прафорганаў на выкананьне 6-ці ўмоў тав. Сталіна, шырока разгортваючы сацспаборніцтва ударніцтва, адпаведную пастаноўку арганізацыі працы ў справе ўкараненьня зьдзельных мэтадаў працы, поўнай ліквідацыі абязьлічкі, ураўнілаўкі, не забываючы, што асноўнай вытворчай адзінкай у час падрыхтоўкі і сяўбы павінна зьяўляцца брыгада.

3. Адначасова канфэрэнцыя канстатуе, што ход падрыхтоўчай кампаніі па саўгасах Сьвінаводу, Белпрамтрэсту, і Птушкатрусагадоўчага праходзіць яўна нездавальняюча. Тэмпы разгортваньня гэтай важнейшай кампаніі сыгналізуюць аб наступным становішчы:

а) Нездавальняючы ход рамонту трактарнага парку і с.-г. інвэнтару. Так, па Сьвінаводу плян рамонту трактараў выканан на 40 проц. і с.-г. машын на 50 проц., па Белпрамтрэсьце плян рамонту трактараў выканан на 77,5 проц. і с.-гасп. машын на 94,5 проц. і па Птушкатрусагадоўчым трэсьце плян рамонту трактараў выкананы на 33 проц. і с.-г. машын на 80 проц.

б) Нездавальняючае разгортваньне работы па падрыхтоўцы брыгадзіраў і рабочых масавых кваліфікацый (трэсты ня ведаюць, што робіцца на мясцох).

в) Невыстарчальна разгорнута работа саўгасамі па забесьпячэньні рабсілай, слаба разгортваецца работа па заключэньні дагавароў з калгасамі; трэстаб'яднаньні па гэтым пытаньні ня маюць вестак, што робіцца на мясцох.

г) Канфэрэнцыя адным з нездавальняючых момантаў адзначае несваячасовае забесьпячэньне саўгасаў насенным матар'ялам і асабліва па кармовых культурах, што пагражае сваячасовай падрыхтаванасьці да стварэньня адпаведнай кармовай базы.

д) Адначасова з гэтым, канфэрэнцыя зварачае ўвагу трэстаў, дырэкцыі і рабачкомаў саўгасаў на нездавальняючую барацьбу ў справе сваячасовай і адпаведнай забясьпеча-

насьці мерапрыемстваў па ўзьняцьці ўраджайнасьці (вываз-ка гною, загатоўка штучных угнаеньняў, распрацоўка севазвароту і іншых агратэхнічных мерапрыемстваў).

4) Улічваючы, што вытворчая праграма 3-й бальшавіцкай сяўбы павінна цалкам забясьпечыць жывёлагадоўчыя саўгасы ўласнымі кармамі і што падрыхтоўчая кампанія зьяўляецца рашаючым фактарам у справе рэалізацыі гэтых вытворчых заданьняў па сяўбе, таму канфэрэнцыя саюзу РЖС лічыць неабходным усю ўвагу трэстаў, дырэкцыі саугасаў і рабачкомаў, у разьвіцьцё пастаноў партыі і ўраду, зьвярнуць на хутчэйшае правядзеньне наступных мерапрыемстваў:

а) Усім арганізацыям зьверху да нізу патроіць тэмпы падрыхтоўкі па правядзеньні веснавой сяўбы Шырока разгарнуць сацспаборніцтва і ўдарніцтва. Безадкладна арганізаваць пераклічку як паміж саўгасамі, так і ўнутры саўгасаў—брыгады з брыгадай, вучастку з вучасткам аб іх гатоўнасьці да сяўбы. Пасеўныя пляны павінны быць даведзены да кожнага рабочага і ІТР. Кожная брыгада не пазьней 10 сакавіка павінна мець свой пасеўны плян з канкрэтнымі мерапрыемствамі па павышэньні ўраджайнасьці. Трэстаб'яднаньням да 15 сакавіка забясьпечыць саўгасы асноўнымі сродкамі вытворчасьці (угнаеньне, машыны).

б) Канфэрэнцыя асабліва зварачае ўвагу трэстаў, дырэкцыі і рабачкомаў на поўнае забесьпячэньне мерапрыемстваў па вызначаным павышэньні ўраджайнасьці, шляхам адпаведнага ўкараненьня агратэхнікі, сваячасовай загатоўкі гатунковага насеньня, яго ачысткі, сваячасовай вывазкі гною і загатоўкі штучных угнаеньняў, вапны, торфу, што павінна стаць аднэй з асноўных задач у справе падрыхтоўкі да сяўбы. Адначасова з гэтым канфэрэнцыя даручае трэстам да 1-ІІІ-32 г. спусьціць у саўгасы прыкладныя севазвароты.

в) Канфэрэнцыя даручае трэстаб'яднаньням, Рэспублі-

канскаму камітэту, дырэктаром і рабачкомам саўгасаў безадкладна дабіцца адпаведных мерапрыемстваў па паскарэньні рамонту трактароў і с.-г. інвэнтару з тым, каб гэтую работу скончыць да 10-III-32 г.

г) Канфэрэнцыя падкрэсьлівае, што важнейшую ўвагу ў справе падрыхтаванасьці і пасьпяховасьці правядзеньня сяўбы павінны заняць пытаньні адпаведнай арганізацыі працы і поўнае ўкараненьне зьдзельшчыны на ўсіх вучастках веснавой сяўбы. Канфэрэнцыя катэгарычна патрабуе ад саўгасаў поўнай ліквідацыі абязьлічкі і ўраўнілаўкі, адначасова з гэтым выключную ўвагу звярачаючы на разгортваньне сацыялістычных форм працы (сацыялістычныя гаспадарча-разрахункавыя брыгады і зьменна-сустрэчнае плянаваньне).

д) Канфэрэнцыя патрабуе ад саўгасаў безадкладна распачаць работу па заключэньні дагавораў з калгасамі на рабочую сілу, адначасова дапамагаючы апошнім у арганізацыйна-гаспадарчым іх замацаваньні.

е) Для больш пасьпяховага правядзеньня сяўбы не пазьней 10-III-32 г. павінны быць ва ўсіх саўгасах створаны адпаведныя кармовыя фонды для цягавай сілы на ўвесь час веснавой сяўбы.

ж) Для ажыцьцяўленьня задачы аўладаньня рабочымі саўгасаў агратэхнікай, канфэрэнцыя лічыць мэтазгодным абвясьціць сакавік м-ц ударным па ўкараненьні агратэхнікі. Задача рабачкомаў—накіраваць гэту работу праз стварэньне каротка-тэрміновых курсаў, гурткоў, кансультацый з боку ІТР, гэтым самым практычна рэалізуючы лазунг саюзу і ЦБ ІТС „Тэхніка масам“. 100 проц. сталых рабочых, 50 проц. пачасовых, патрэбных для сяўбы, павінны быць ахоплены гэтай работай.

з) Канфэрэнцыя лічыць, што ў падрыхтоўчай рабоце да сяўбы асаблівая ўвага павінна быць аддана справе падрыхтоўкі з боку трэстаў і саўгасаў на паляпшэньне сацыяль-

на-бытавых і культурных умоў рабочых і ІТР саўгасаў (грамадзкае харчаваньне, забесьпячэньне, грамадзкія гароды, работа клюбаў, насьценгазэт і інш.).

і) Папярэдзіць усіх дырэктароў і старшынь рабачкомаў саўгасаў, што яны нясуць асабістую крымінальную адказнасьць у тых выпадках, калі імі будзе дапушчана скарыстаньне на другія мэты як насенных, так і фуражных фондаў, прызначаных для веснавой пасеўкампаніі.

к) Канфэрэнцыя лічыць неабходным устанавіць з 10 па 20 сакавіка г. г. па ўсіх жывёлагадоўчых саўгасах першы дэкаднік масавай праверкі падрыхтаванасьці да сяўбы, адначасова з гэтым зварачвае ўвагу саўгасаў на ажыўленьне работы пасеўных штабаў у саўгасах.

---

## ПАСТАНОВА

**першай ўсебеларускай канфэрэнцыі саюзу рабочых жывёлагадоўчых саўгасаў аб папярэдніх выніках зімоўкі стада і далейшых задачах па захаваньні маладняка**

*Ад 18-20-II* 1932 г.

1) Заслухаўшы даклады дырэкцый трэстаў—Сьвінавод, Малочна-прамысловага і Птушка-трусагадоўчага—аб папярэдніх выніках зімоўкі стада і далейшых задачах па захаваньні маладняка, 1-ая канфэрэнцыя саюзу РЖС адзначае:

Жывёлагадоўчыя саўгасы БССР, як і ўсяго Савецкага Саюзу са сканчэньнем мінулага 1931 году, ня глядзячы на кароткі тэрмін свайго існаваньня, ужо дабіліся першых посьпехаў у справе выкананьня дырэктыў партыі і ўраду па разьвіцьці сацыялістычнай жывёлагадоўлі.

Так, па саўгасах Сьвінаводтрэсту БССР агульнае пагалоўе сьвіней даведзена да 75.000 штук, з іх сьвінаматак—32.000. Здана дзяржаве ў 1931 годзе 19.000 таварных сьвіней. Пабудавана 118.000 сьвінамесц. Па Малочна-прамысло-

вым трэсьце наяўнасьць буйнай рагатай жывёлы ўсіх узростаў давецзена да 24.150 галоў, з іх дойных кароў 14.500 шт., за 1931 год ім здана дзяржаве 47.113 цэнтн. рознай малочнай таварнай прадукцыі. Па птушка-трусагадоўчых саўгасах пастаўлена пагалоўе 5467 штук птушак і 2550 шт. трусоў.

Па ўсіх саўгасах створаны належныя прадпасылкі для магутнай уласнай кармовай базы. Пашырылася мэханізацыя савецкіх гаспадарак. Узрасла зямельная тэрыторыя, якая пакінула з-заду ўсе намёткі пяцігадовага пляну. Значна павялічыліся капіталаўкладаньні ў будаўніцтва саўгасаў (каля 35 мільёнаў рублёў). Але гэтыя дасягненьні зьяўляюцца толькі першапачатковымі і яны былі-б значна большымі, калі-б па-бальшавіцку былі-б скарыстаны ўсе магчымасьці шырокай мабілізацыі рабочых мас і ІТР саўгасаў па поўным ажыцьцяўленьні 6 гістарычных умоў т. Сталіна і ўсіх зусім прамых і канкрэтных дырэктыў партыі і ўраду па разьвіцьці сацыялістычнай жывёлагадоўлі.

2) Канфэрэнцыя з усёй сілай падкрэсьлівае наяўнасьць цэлага раду недапушчальных буйнейшых прарываў у жывёлагадоўчых саўгасах, ставячы пад прамую *пагрозу* выкананьне плянаў 1932 году, а менавіта:

а) Адыход маладняка *па саўгасах Сьвінавода* за 1931 г. складае 47 проц., а за 1 з паловай м-цы 1932 г.—24,3 проц. *Па саўгасах Белмалпрамтрэсту* у 1931 г. адыход маладняка—46 проц., *а па Птушка-трусагадоўчых гаспадарках* ён дайшоў да 70 проц. Плян злучной кампаніі па сьвінасаўгасах выканан толькі на 86 проц., ня выканан таксама і па малочна-прамысловых і птушка-трусагадоўчых саўгасах. *Ня выкананы саўгасамі ўсіх сыстэм абавязкі па здачы дзяржаве ў 1931 г. таварнай прадукцыі.* (Сьвінавод выканаў гадавы плян здачы толькі на 40 проц., Малпрамтрэст--52 проц.) *Злачынна нездавальняюча выконваецца плян здачы таварнай прадукцыі ў 1-м квартале* 1932 г. Так, Сьвінавод квартальны плян выканаў усяго на 34 проц., а Малпрамтрэст толькі на 13,5 проц.

б) Такое ганебнае становішча зьяўляецца прамым вынікам наяўнасьці ў многіх саўгасах *буржуазна-кулацкіх тэндэнцый,* абсалютна нездавальняючай работы па правядзеньні ў жыцьцё *6 умоў т. Сталіна,* дрэннай падрыхтоўкі да зімоўкі стада, наяўнасьці ўсё яшчэ абязьлічкі, ураўнілаўкі, надзвычай слабай масавай работы па ўкараненьні зоавэтмінімуму і невыстарчальнага разгортваньня сацспаборніцтва і ўдарніцтва і яго вышэйшых форм.

3) Партыя перад жывёлагадоўчымі саўгасамі рашуча паставіла задачу на 1932 г. за кошт уласнай гадоўлі стада давесьці пагалоўе стада: *па Сьвінаводу да 265.000 штук,* з іх матак 50.000, здаць дзяржаве таварнага мяса 7200 тон. *Па Малпрамтрэсту*—дойных кароў 31.000 шт. і здаць 74.180 тон малака, 425 тон масла 1 417 тон сыру. *Па птушка-трусагадоўчым трэсьце*—матачнае пагалоўе птушак—41.000, матак-трусоў—25.100 шт., рагатай жывёлы—1995 шт. і здаць таварнай прадукцыі: птушынага мяса—165 цэнтн., мяса трусоў 35 цэнтн., яек—100.000 штук і малака 20 тон. Гэтыя вялізарныя задачы безадкладна патрабуюць *рашучай перабудовы* работы ўсіх трыкутнікаў саўгасаў і сапраўды бальшавіцкай мабілізацыі шырокіх мас рабочых і ІТР на барацьбу за пасьпяховае выкананьне прамфінпляну як па колькасных, так і асабліва па якасных паказальніках.

*Барацьба за своечасовае і поўнае выкананьне пляну здачы таварнай прадукцыі, барацьба за 100 проц. захаваньне маладняка, барацьба за якасьць работы і высокі выхад таварнай прадукцыі павінна стаць цэнтральнай задачай, у выкананьні якой падпарадкаваць усю работу гаспадарчых і прафсаюзных арганізацый зьверху да нізу.*

4) Выходзячы з гэтага, канфэрэнцыя саюзу рабочых жывёлагадоўчых саўгасаў пастанаўляе правесьці наступныя практычныя мерапрыемствы:

## I. Па саўгасах Сьвінаводтрэсту.

1. Прапанаваць дырэктаром і рабачкомам саўгасаў правядзеньне злучной і апароснай кампаніі паставіць як важнейшую задачу. Забясьпечыць 100 проц. выкананьне памесячных плянаў злучкі, зьнішчыць ялавасьць матак, значна палепшыць якасьць прыплоду і поўнае яго захаваньне, для чаго неабходна:

а) Вылучыць на гэтыя вучасткі работы лепшых рабочых-ударнікаў, дэталёва прапрацаваць з імі інструкцыі аб правядзеньні злучак. Рашуча ўкараніць мэтады групавой злучкі ва ўсіх саўгасах.

б) Фарсаваць мэтызацыю стада і ўвядзеньнем зоатэхнічнага падбору забясьпечыць павышэньне прадукцыйнасьці матачнага стада ня менш як на 25 проц. да канца году.

в) Тэрмінова прыступіць да заканчэньня рамонту і абсталяваньня маючыхся сьвінарнікаў. У пэрыяд масавых апаросаў забясьпечыць поўнасьцю падсосных матак і маладняк—цёплымі, сухімі і сьветлымі памяшканьнямі.

г) Рашучым укараненьнем зоавэтмінімуму, правільным доглядам і кармленьнем дабіцца ад кожнай сьвіньні веснавага апаросу ня менш 6 таварных падсьвінкаў і 5 таварных ад вясеньня-зімовага апаросу.

д) Забясьпечыць усіх сьвіней штодзеннымі прагулкамі рашуча палепшыць санітарнае становішча сьвінарнікаў, абвясьціўшы барацьбу бруду і дрэннаму ўтрыманьню сьвіннога пагалоуя.

е) Давесьці пляны штодзеннага прыросту маладняка да кожнага сьвінара адкормачнага цэху і арганізаваць кантроль над яго выкананьнем.

ж) Дырэктаром і рабачкомам саўгасаў прыняць тэрміновыя захады да загатоўкі патрэбнай колькасьці подсьцілу. Трэсту прыняць усе захады да забесьпячэньня саўгасаў адпаведнымі канцэнтраванымі кармамі, дырэктаром саўгасаў ажыцьцявіць правільнае і эканомнае расходваньне ўсіх

кармоў, адначасова прыняць захады да загатоўкі гальлёвага корму.

з) Канфэрэнцыя патрабуе ад дырэкцый трэстаў больш хуткіх мерапрыемстваў па разбуйненьні саўгасаў Сьвінаводу з тым, каб саўгасы мелі ня больш 400 матак.

## II. Па саўгасах Малакапрамтрэсту.

а) Фарсаваць сканчэньне будаўніцтва скотных двароў і іх уцяпленьне з тым, каб да пачатку масавага ацёлу саўгасы былі-б поўнасьцю забясьпечаны для належнага ўтрыманьня ўсёй жывёлы і асабліва маладняка і яго захаваньня.

б) Узьняць на належную вышыню масавую работу па павышэньні ўдою кароў. Плян ўдою і здачы таварнай прадукцыі давесьці да кожнага скотнага двара, да кожнай каровы і кожнай брыгады і брыгадзіра, абслугоўваючых гэтых кароў.

в) Асаблівую ўвагу зьвярнуць на загатоўкі нехапаючага корму; дырэкцыі трэсту правесьці міжсаўгаскае разьмеркаваньне кармоў і скончыць перакідку гэтых кармоў да пачатку вясны.

г) Прыцягнуць НДІ да актыўнай барацьбы з захворваньнем стада і асабліва сухоткай і інфэкцыйным абортам (банча).

д) Дырэкцыі трэсту і ўсім дырэктаром саўгасаў безадкладна прыступіць да мэтызацыі стада—больш хутчэйшага паляпшэньня парод кароў. Своечасова забясьпечыць правядзеньне злучной кампаніі, поўнай ліквідацыі ялавасьці і рашучага ўкараненьня штучнага абсемяненьня.

## III. Па саўгасах Птушка-трусагадоўчага трэсту.

а) Для захаваньня матачнага стада па птушках і трусох, прапанаваць дырэктаром саўгасаў і рабачкомам не пазьней І-ІІІ-32 г. ацяпліць памяшканьні, пакласьці падлогу і забясьпечыць подсьцілам.

б) Тэрмінова перавесьці саўгасы на зьдзельна-прэміяльную аплату працы.

в) Безадкладна ліквідаваць антысанітарнае становішча птушнікаў і трусатнікаў. Рашуча і хутка ўкараніць правядзеньне зоатэхнічнага і вэтэрынарнага мінімуму, у сакавіку м-цы правесьці курсы без адрыву ад вытворчасьці, праз якія прапусьціць усіх рабочых, занятых доглядам птушак і трусоў.

г) Саўгасам да I-V-32 г. забясьпечыць арганізацыю выгулаў і вольнага ўтрыманьня матачнага стада і пагалоўя маладняка птушак і трусоў.

д) Паставіць пытаньне перад НКЗБ аб задавальненьні пагалоўя саўгасаў грубымі і асабліва канцэнтраванымі кармамі. Дырэктаром саўгасаў даручыць прыняць адпаведныя меры да загатоўкі грубых кармоў, рашуча ўжываючы і гальлёвы корм.

е) Трэсту сваячасова паставіць пытаньне і прыняць усе захады да забесьпячэньня саўгасаў адрацытам для пачынаючайся інкубацыйнай кампаніі.

5) Канфэрэнцыя патрабуе ад усіх рабачкомаў і дырэктароў саўгасаў канчаткова ліквідаваць абязьлічку і ураўнілаўку з тым, каб ня было ніводнай жывёлы, ніводнага вучастку, ніводнай с.-г. машыны, не прымацаванай да рабочага і яго адказнасьці. Ударніка вядучай прафэсіі сапраўды зрабіць цэнтральнай фігурай саўгасу як у аплаце працы, так і ў адносінах да яго.

6) Дырэкцыі ўсіх трэстаў і Рэсп. К-ту саюзу РЖС перабудаваць сваю работу ў бок поўнага апэрацыйнага кіраўніцтва кожным саўгасам паасобку і практычнай дапамогі саўгасам. Адначасова патрабаваць ад дырэктароў і рабачкомаў саўгасаў большай адказнасьці ў сваячасовай інфармацыі усіх правадзімых мерапрыемстваў перад Рэсп. К-там і трэстамі.

7) Канфэрэнцыя падкрэсьлівае, што навукова-дасьледчыя інстытуты *адстаюць ад тэмпаў* саўгаснага будаўніц-



тва і патрабуе ад іх рашучага пераломy ў гэтым напрамку.

8) Канфэрэнцыя зварачае сур'ёзную ўвагу ўсіх гаспадарнікаў трэстаў і саўгасаў на фарсаваную падрыхтоўку кадраў масавых кваліфікацый і асабліва на падрыхтоўку кадраў па тэхнічным нармаваньні, якое ў саўгасах амаль не праводзіцца і недаацэньваецца, як важнейшая справа ў арганізацыі працы.

9) Хутчэйшае аўладаньне тэхнікай жывёлагадоўлі—ёсьць важнейшая баявая неадкладная задача сёнешняга дня, таму канфэрэнцыя патрабуе выкананьня дырэктыў партыі з тым, каб у кожным саўгасе былі-б на працягу бліжэйшай дэкады арганізаваны адпаведныя тэхнічныя гурткі з апохам у іх усіх рабочых вядучых прафэсій і новых рабочых.

10) Канфэрэнцыя заклікае ўсіх ударнікаў, усіх рабочых ІТР саўгасаў самамабілізавацца і патроенай энэргіяй, выконваючы 6 умоў т. Сталіна, максымальна разгарнуць мэтады сацспаборніцтва, ударніцтва і яго вышэйшыя формы, па-бальшавіцку ўзяцца за выкананьне дырэктыў партыі па хутчэйшым вырашэньні жывёлагадоўчай праблемы.

---

## АБ РАЗЬВІЦЬЦІ СЬВІНАГАДОЎЛІ

### Пастанова Савету Народных Камісараў Саюзу ССР

У мэтах заахвочваньня разьвіцьця сьвінагадоўлі ў калгасах, саўгасах, спажывецкай каапэрацыі, у калгасьнікаў, а таксама ў аднаасобнікаў і маючы на ўвазе паляпшэньне снабжэньня мясам у найкарацейшы тэрмін, Савет Народных Камісараў Саюзу ССР пастанаўляе:

1. Паставіць задачай калгасаў, саўгасаў, калгасьнікаў і аднаасобнікаў, а таксама спажывецкай каапэрацыі павысіць агульнае стада сьвіней за 1932 г. ня менш чым на 35 проц. з тым, каб стада сьвіней у таварных фэрмах Сьвінаводкалгасцэнтру давесьці да 4,5 мільёнаў штук (павялічэньне

ў два разы), у Сьвінаводаб'яднаньні да 2,9 мільёнаў штук (павялічэньне ў тры разы), неаграмаджанае стада калгасьнікаў і аднаасобнікаў—да 9 мільёнаў штук і стада спажывецкай каапэрацыі (адкорм сьвіней) да $1^1/_2$ мільёна штук.

2. Абавязаць Сьвінаводкалгасцэнтр, Сьвінаводаб'яднаньне і спажывецкую каапэрацыю на аснове такога разьвіцьця сьвінагадоўлі забясьпечыць у 1932 г. здачу (продаж) таварнага сьвіннога мяса: а) па Сьвінаводкалгасцэнтры ў разьмеры 114.000 тон (2 мільёны штук), б) па Сьвінаводаб'яднаньні—100.000 тон (1,7 мільёны штук), в) па спажывецкай каапэрацыі—40,8 тысяч тон (709 тысяч штук, ня лічачы, якія здымаюцца з адкорму).

Абавязаць Калгасцэнтр і Цэнтрасаюз арганізаваць у кожным калгасе, які ня мае сьвінагадоўчых фэрм, і ў кожным сельспажыўтаварыстве калектыўную гадоўлю і калектыўную здачу (продаж) дзяржаве сьвіней у адкормленым выглядзе ў лік пляну загатовак.

3. Павысіць загатоўчыя цэны на сьвіней, давёўшы іх да 80 кап. за кілёграм жывой вагі ў сярэднім.

4. Вызваліць у 1932 г. ад якіх-бы там ня было падаткаў сьвінагадоўлю як у калгасах, так і ў аднаасобнікаў, а таксама вызваліць ад абкладаньня ўвесь кошт кармоў, якія калгасы перадаюць сьвінагадоўчым таварным фэрмам.

5. Абавязаць Наркамзем СССР адпусьціць Сьвінаводкалгасцэнтру з бюджэтных і крэдытных сродкаў Наркамзему СССР у 1932 г. на патрэбы капітальнага будаўніцтва у сьвінагадоўчых таварных фэрмах, на зоатэхнічныя мерапрыемствы, на падрыхтоўку кадраў і інш. 119 мільёнаў рублей.

6. Паставіць на 1932 г. перад сьвінагадоўчымі саўгасамі і калгасамі ў якасьці асноўнай задачы стварэньне ўстойлівай кармовай базы сьвінагадоўлі, у прыватнасьці арганізацыю штучных выпасаў. З гэтай мэтай: а) абавязаць Калгасцэнтр СССР на працягу лютага 1932 г. правесьці масавую праверку вызначэньня калгасамі для сваіх таварных

фэрм неабходных ім канцэнтраваных і іншых кармоў, дабіваючыся давядзеньня кармовых фондаў да разьмераў, якія адпавядаюць ухваленаму пляну разьвіцьця сьвінагадоўлі.

б) Прапанаваць Наркамзему і Калгасцэнтру СССР у веснавую пасеўную кампанію 1932 г. прыняць меры да таго, каб калгасы, якія маюць сьвінагадоўчыя таварныя фэрмы, замацавалі за гэтымі фэрмамі спэцыяльныя плошчы кармовых культур, якія поўнасьцю забясьпечылі-б сьвінныя стады фэрм канцэнтраванымі і сакавітымі кармамі.

в) Абавязаць усе сьвінагадоўчыя саўгасы, калгасы і СТФ а таксама спажывецкую каапэрацыю ў максымальнай ступені мабілізаваць усе наяўныя ўнутры калгасныя кармовыя рэсурсы і скарыстаць для адкорму сьвіней адыходы харчаваньня, адыходы, адкіды бліжэйшых сельгаспрадпрыемстваў, увесьці самую жорсткую эканомію ў расходваньні кармоў.

г) Прапанаваць Наркамзему і Калгасцэнтру СССР прэміяваць перадавыя калгасы і саўгасы, якія праявяць найбольшую ініцыятыву і прадпрыемнасьць у справе скарыстаньня дадатковых кармоў для сьвінагадоўлі і эканомнага расходваньня кармоў.

7. Прапанаваць Наркамснабу СССР адпусьціць у лік устаноўленага пляну з дзяржаўнага фонду для дапамогі сьвінагадоўчым таварным калгасным фэрмам 150.000 тон канцэнтраваных кармоў.

8. Запрапанаваць Наркамснабу СССР правесьці кантрактацыю сьвіней на асобна ільготных умовах для калгасных таварных фэрм калгасаў і калгасьнікаў з тым:

а) Таварнасьць для СТФ і пры калектыўным адкорме сьвіней у калгасах устанаўліваецца ў разьмеры 70 проц. з пакіданьнем у карыстаньне калгасьніка 30 проц. прадукцыі.

б) Кантрактацыі ў калгасьнікаў і аднаасобнікаў падлягаюць ня больш аднаго парасяці ад апаросу, а рэшта прыплоду застаецца ў поўным распараджэньні гаспадаркі.

в) выдача авансаў на кантрактацыю сьвіней устанаўліваецца ў разьмеры 20 руб. і на бэконную сьвіньню ў разьмеры 25 руб.

Даручыць Наркамснабу СССР у адпаведнасьці з плянам загатовак сьвіней забясьпечыць завоз дэфіцытных прамтавараў у асноўныя сьвінагадоўчыя раёны для продажу здатчыкам сьвіней.

9. Абавязаць сьвінагадоўчыя аб'яднаньні на працягу 1932-33 г.г. поўнасьцю забясьпечыць сьвінагадоўчыя калгасныя фэрмы племянымі прадуктарамі для забесьпячэньня хуткасьпеласьці калгаснага сьвіннога стада.

10. Скасаваць усе існуючыя абмежаваньні забою сьвіней за выключэньнем матачнага стада і прадуктараў. Скасаваць у сельскіх мясцовасьцях абавязковасьць забою сьвіней для асабістага спажываньня на бойнях і воінскіх пунктах.

11. Запрапанаваць Дзяржбанку СССР фінансаваць куплю парасят сьвінафэрмамі і калгасамі ня супроць рахункаў, а па абавязацельствах калгасаў з наступным прадстаўленьнем рахункаў па закупцы парасят.

12. Прыраўняць агранамічна-зоатэхнічны і вэтэрынарны пэрсанал у сьвінагадоўчых саўгасах у адносінах забесьпячэньня іх прамтаварамі да інжынэраў прамысловасьці.

Запрапанаваць Наркамснабу і Наркампрацы СССР цьвёрда забясьпечыць у першым квартале 1932 г. водпуск Сьвінааб'яднаньню для сьвінароў неабходнай колькасьці цёплай спэцвопраткі і абутку.

13. Адзначаючы высокі процант ялавасьці матачнага стада і падзяжу парасят у саўгасах і СТФ з прычыны, галоўным чынам, нездавальняючага правядзеньня злучной кампаніі і дрэннага ўтрыманьня, кармленьня і догляду маладняка, абавязаць Наркамзем СССР па Сьвінаводаб'яднаньні, Сьвінаводкалгасцэнтры, Цэнтрасаюзу і ЦК саюзу работнікаў жывёлагадоўчых саўгасаў дабіцца ў 1932 г. рашучага паляпшэньня ў справе гадоўлі і захаваньня маладняка. У гэ-

тых мэтах устанавіць такую сыстэму аплаты працы сьвінароў, зоавэтпэрсаналу ў саўгасах і СТФ, пры якой разьмер аплаты працы залежыў бы ад выхаду таварнай прадукцыі, зьменьшчаньня ялавасьці і захаваньня маладняка.

Старшыня Савету Народных Камісараў СССР
**В. Молатау (Скрабін).**

Нам. Кіраўніка справамі
Савету Народных Камісараў Саюзу ССР
**І. Мірошнікаў.**

г. Масква.
Крэмль, 28-I-32 г.

---

## ПАСТАНОВА

### прэзыдыуму Бел. Рэсп. к-ту саюзу РЖС па дакладу сэктару кадраў саюзу і НКЗБ аб веснавым наборы ў ВНУ і тэхнікумы

*Ад 9-III* 1932 *г.*

Заслухаўшы даклады сэктараў кадраў саюзу і НКЗБ аб веснавым наборы ў ВНУ і тэхнікумы, прэзыдыум Рэсп. К-ту саюзу РЖС, надаючы вялізарнае значэньне справе падрыхтоукі кадраў вышэйшай і сярэдняй кваліфікацыі праз ВНУ і тэхнікумы для найлепшага і найхутчэйшага вырашэньня мяса-тлушчавай праблемы, поўнага выкананьня і перавыкананьня прамфінплянаў 1932 г., гэтым самым належнага падвядзеньня эканамічнай і тэхнічнай базы для пасьпяховага выкананьня задач, якія стаяць перад другой пяцігодкай, для гэтага „рабочая кляса павінна стварыць сваю ўласную інтэлігенцыю, здольную адстойваць яе інтарэсы на вытворчасьці, як інтарэсы пануючай клясы“ (Сталін). Ня гледзячы на гэта, у падрыхтоўчай рабоце прэзыдыум адзначае:

1) Нездавальняючы ход падрыхтоўчай работы да набору. Сэктар кадраў НКЗ, гаспадарчыя аб'яднаньні і адміністрацыя навучальных устаноў не аддалі выстарчальнай увагі пытаньням падрыхтоўкі інтэрнатаў, вучэбных памяшканьняў і падручнікаў, яшчэ ня вызначаны і не апушчаны дакладныя кантынгенты новых набораў, бо ў дасланых са спазьненьнем кантынгентах маецца разьбежка паміж кантынгентамі Сьвінаводаб'яднаньня і НКЗ Бел. Зусім малы кантынгент набору ў тэхнікумы. Ня створана база для набору ў ВНУ. Усё вышэйадзначанае вядзе да неарганізаванага набору, да апусканьня справы на самацёк і пагрозы зрыву як поўнага ўкамплектаваньня, так і забесьпячэньня пры наборы па рабочай курыі і партыйна-камсамольскай праслойцы.

Выходзячы з гэтага прэзыдыум Рэсп. К-ту саюзу РЖС пастанаўляе:

1) Прапанаваць гаспадарчым аб'яднаньням, адміністрацыі навучальных устаноў і прафкомам поўнасьцю выканаць пляны набору па ВНУ—135 асоб, па тэхнікумах—180 асоб і па рабфаку—90 асоб, зрабіўшы ўсё неабходнае ў справе арганізацыйна-мэтадычнага ўзмацненьня навучальных устаноў, забясьпечыўшы высокаякасныя вучэбна-вытворчыя работы кожнага студэнта.

2) Абавязаць гаспадарчыя ўстановы, адміністрацыю навучальных устаноў і прафкомаў забясьпечыць правядзеньне мерапрыемстваў плянавага набору ў навучальныя ўстановы ў прыёмы 1932 г., паляпшаючы якасьць выпушчаемай прадукцыі праз забесьпячэньне пры наборы рабочай праслойкі 60-75 проц. і партыйна-камсамольскай—45-60 проц., забясьпечыўшы сапраўднае ўцягненьне ў навучальныя ўстановы рабочых жывёлагадоўчых саўгасаў і ўдарнікаў калгасьнікаў, зьвярнуўшы ўвагу на павялічэньне проц. жанчын, давёўшы да 30 проц.

3) Абавязаць адміністрацыю і прафкомы навучальных устаноў поўнасьцю выканаць пляны набору ў вячэрнія ад-

дзяленьні, шляхам арганізацыі вярбоўкі праз масавую работу па вытворчасьцях прыгарадных саўгасаў і калгасаў.

4) Прапанаваць гаспадарчым аб'яднаньням, дырэктаром навучальных устаноў і прафкомам у застаўшыся час да заняткаў прыняць усе захады да падрыхтоўкі як жыльлёвай, так і вучэбнай плошчы.

5) Даручыць сэктару кадраў саюзу ў 3-хдзенны тэрмін сьпісацца з сэктарам кадраў Сьвінаводаб'яднаньня аб дакладным устанаўленьні кантынгенту веснавога набору ва ўсе ВНУ і тэхнікумы БССР, падлягаючыя абслугоўваньню Сьвінаводу.

6) Прапанаваць прафкомам навучальных устаноў арганізаваць масавую работу па вытворчасьцях вакольных саўгасаў і калгасаў па вярбоўцы ў ВНУ і тэхнікумы шляхам:

а) Вылучэньня сталых брыгад па вытворчасьцях, саўга сах і калгасах.

б) Абавязаць усіх студэнтаў, ад'яжджаючых на вытворчую практыку, аб вядзеньні данай работы.

в) Абавязаць сэктар кадраў і бюро Пралетстуду даць паказаньні усім рабачкомам аб вядзеньні гэтай работы па саўгасах.

7) Прапанаваць бюро Пралетстуду выпрацаваць канкрэтныя мерапрыемствы па вядзеньні вярбовачнай работы ў ВНУ, тэхнікумы і рабфакі для студпрафарганізацый, апусьціўшы іх не пазьней 25-III-32 г.

8) Адзначыць невыкананьне НКЗБ плянаў па падрыхтоўцы рабочых саўгасаў у ВНУ (замест 200—64 чал.), прапанаваць даную наметку (200 асоб) падрыхтаваць да асеньняга набору, маючы на ўвазе, што галоўная колькасная цяжкасьць набору прыпадае на восень.

9) Прапанаваць сэктару кадраў і Бюро Пралетстуду з заканчэньнем веснавога набору пачаць самую энэргічную падрыхтоўчую работу да асеньняга ўкамплектаваньня.

# ПАСТАНОВА

**Прэзыдыуму Рэсп. к-ту саюзу РЖС па дакладах сэктараў кадраў саюзу і саўгастрэстаў аб падрыхтоўцы кадраў масавай кваліфікацыі да веснавой сяўбы 1932 году.**

*Ад 9/III-32 г.*

Заслухаўшы даклады сэктароў кадраў саюзу і саўгастрэстаў аб падрыхтоўцы кадраў масавай кваліфікацыі да веснавой сяўбы 1932 г., прэзыдыум рэсп. к-ту саюзу РЖС адзначае што:

1. Ход разгортваньня падрыхтоўкі кадраў да веснавой сяўбы ідзе надзвычай марудна і не забясьпечвае выкананьня пастановы прэзыдыуму саюзу ад 20-I-32 г. і плянавых заданьняў па падрыхтоўцы кадраў да веснавой сяўбы і характарызуецца наступным выкананьнем:

а) Па сьвінаводтрэсьце падрыхтоўка кадраў з адрывам ад вытворчасьці: замест вызначаных 1608 чал. падрыхтавана на 1/III-г. г. 206 чал., або 15,2 проц.; рыхтуецца 856 чал., або 53,22 проц. Падрыхтоўка кадраў без адрыву ад вытворчасьці—замест 9.917 чал., падрыхтавана 120 чал., або 1,31 проц.; рыхтуецца 1.009 чал., або 10,17 проц.

б) Па Прамжыўтрэсьце падрыхтоўка кадраў з адрывам ад вытворчасьці: замест вызначаных 1.514 чал., падрыхтавана 0%; рыхтуецца 292 чал., або 19 проц.; без адрыву ад вытворчасьці—замест вызначаных 6.286 чал., падрыхтавана 0 проц.; рыхтуецца 359 чал., або 5,5 проц.

в) Па Птушкатрусагадоўчым трэсьце падрыхтоўка кадраў з адрывам ад вытворчасьці: замест вызначаных 205 чал., падрыхтавана 2,4 проц., рыхтуецца 77 чал., або 37,5 проц. Без адрыву ад вытворчасьці—замест вызначаных 530 чал. падрыхтавана 191 чал., або 36,03 проц., рыхтуецца 228 чал., або 24,1 проц.

2. Лічыць зусім недапушчальным, што падрыхтоўка кадраў масавай кваліфікацыі да веснавой сяўбы без адрыву ад вытворчасьці ідзе надзвычай марудна і асабліва па сьві-

наводтрэсьце і Прамжыўтрэсьце і асабліва па кваліфікацыі трактарыстаў. Ахоп па Сьвінаводу 44 проц., па Прамжыўтрэсьце—9,6 проц., палявых рабочых: па Сьвінаводу 6,15 проц. і Прамжыўтрэсьце—0,7%, пры чым работа па разгортваньні падрыхтоўкі конюхаў і пастухоў зусім не разгорнута.

3. З боку Сьвінаводу і Прамжыўтрэсту ня прыняты досыць рашучыя меры па забесьпячэньні выкананьня пляновых заданьняў па падрыхтоўцы кадраў да веснавой сяўбы і асабліва з боку Прамжыўтрэсту.

4. Рабачкомы і дырэктары саўгасаў яўна недаацэньваюць важнасьці справы падрыхтоўкі кадраў да веснавой сяўбы і гэта работа зусім не разгорнута (с./г. Бярэзіна Дабрынь, Каралёва, Капыль, Лучыцы, Варонічы, Рэпішча, Высокае і г. д.)

5. Лічыць зусім ненармальным, што з боку НКЗБ да гэтага часу ня вызначаны грашовыя сродкі Прамжыўтрэсту па падрыхтоўцы кадраў да веснавой сяўбы.

Выходзячы з гэтага прэзыдыум Рэсп. К-ту саюзу РЖС пастанаўляе:

1) Абавязаць дырэкцыю саўгастрэстаў пад адказнасьць т. т. Аўчыньнікава, Сьмірнова і Лукашэвіча забясьпечыць поўнае выкананьне плянаў і пастановы прэзыдыуму саюзу ад 20/I-32 г. па падрыхтоўцы кадраў да веснавой сяўбы даўшы рашучае ўказаньне дырэктарам саўгасаў аб выкананьні даных разьвёрстак па падрыхтоўцы кадраў да веснавой сяўбы.

2) Прасіць прэзыдыум ЦСПСБ і Наркампрацы даць паказаньне райпрафсаветам і райінспэктарам працы, каб апошнія ўзялі пад свой кантроль ход падрыхтоўкі кадраў да веснавой сяўбы па жывёлагадоўчых саўгасах.

3) Прасіць Калегію НКЗБ як мага хутчэй вызначыць адпаведную суму грашовых сродкаў па Прамжыўтрэсьце па падрыхтоўцы кадраў да веснавой сяўбы і работнікаў ТНБ-

4) За неразгортваньне работы і недаацэнку справы падрыхтоўкі кадраў масавай кваліфікацыі да веснавой сяўбы абвясьціць суровую вымову старшыням рабачкомаў саўгасаў „Лучыцы“, „Бярэзіна“ і „Дабрынь“, а астатніх старшынь рабачкомаў рашуча папярэдзіць, што ў выпадку неразгортваньня гэтай работы будуць прыняты рашучыя меры. Абавязаць дырэкцыю саўгастрэстаў накласьці адміністрацыйнае спагнаньне на дырэктароў вышэйпаказаных саўгасаў.

5. Абавязаць усіх старшынь рабачкомаў прадстаўляць весткі аб ходзе падрыхтоўкі кадраў да веснавой сяўбы кожную пяцідзёнку.

6. Даручыць т. Пруднікаву скласьці дакладную запіску ў разгорнутым выглядзе ў прэзыдыум ЦКК РСІ для прыцягненьня да адказнасьці дырэктара Прамжыўтрэсту тав. Сьмірнова за зрыў падрыхтоўкі кадраў масавай кваліфікацыі да веснавой сяўбы.

---

# ПАСТАНОВА

**прэзыдыуму Рэспубліканскага камітэту саюзу РЖС па дакладу дырэктара саўгасу „Івань“ аб выкананьні прамфінпляну 1931 году і судакладу рабачкому аб масавай рабоце.**

*Ад 20-І* 1932 *году.*

Заслухаўшы даклад дырэктара саўгасу „Івань“ аб выкананьні прамфінпляну ў 1931 годзе і судаклад рабачкому аб масавай рабоце, прэзыдыум канстатуе, што прамфінплян па саўгасе „Івань“ выканан у наступных паказальніках:

Заданьне па ўкамплектаваньні 1293 шт. сьвіней—выканана—614, або 49 проц., па ўкамплектаваньні матак: заданьне 200 галоў, выканана—198, або 99 проц.

Плян злучной кампаніі па саўгасе ня выканан, павінны былі злучыць 200 матак на 10-1-г. г., злучана 160 матак, або 80 проц.

Паводле пляну павінна было быць апаросаў 207, выканана 136, або 65 проц., парасят павінна было нарадзіцца 1830, фактычна нарадзілася 1029, або 54,6 проц. Адыход у саўгасе складае 39,3 проц., з якога амаль што 90 проц. выключна пала з-за паратыфусу. Па пляне 1931 г. саўгас павінен быў здаць 588 шт. племяных сьвіней, а здана 163 шт., плян па здачы племянога скату выканан на 28 проц. Масла па пляне павінны былі здаць 1200 кгр., здана—2569 кілёграм.

Усе гэтыя лічбы сьведчаць аб тым, што прамфінплян па саўгасе „Івань“ ня выканан па ўсіх галінах апрача здачы малака. У асноўным саўгас з задачай племяной гаспадаркі ня справіўся.

Меліся выпадкі разбазарваньня таварнай прадукцыі, якія выяўляюцца ў наступных лічбах: сьвіней—88 штук, вагой 702 кгр. Замест нормы выдачы малака рабочым 4 літры ў м-ц, выдавалася 16 літраў.

Прэзыдыум адзначае, што плян здачы малочнай прадукцыі па саўгасе быў яўна зьменшаны.

Рабачком саўгасу не забясьпечыў кіраўніцтва сацспаборніцтвам і ўдарніцтвам у саўгасе, у выніку чаго адсутнічае ўлік рэальных вынікаў сацспаборніцтва і ўдарніцтва. 6 умоў т. Сталіна у саўгасе не праводзіліся ў жыцьцё.

Выходзячы з вышэй адзначанага, прэзыдыум пастанаўляе:

1) Дырэкцыі і рабачкому правесьці шырокую масавую работу па прапрацоўцы прамфінпляну і высоўваньні сустрэчнага, давёўшы яго да кожнага рабочага паасобку.

2) Зьвярнуць асаблівую ўвагу трыкутніка саўгасу на перабудову працы ў адпаведнасьці выкананьня 6-ці умоў т. Сталіна, дабіўшыся поўнай ліквідацыі абязьлічкі і ўраўнілаўкі ў саўгасе, перавёўшы ўсе цэхі на зьдзельна-прагрэсыўную аплату і гасразрахунак.

3) Асаблівую ўвагу дырэкцыі і рабачкому зьвярнуць на сваячасовае выкананьне здачы таварнай прадукцыі дзяржаве, на ход злучной кампаніі і захаваньне маладняка.

4) Максымальную ўвагу аддаць пытаньню будаўніцтва ў саўгасе.

5) Зараз-жа распачаць падрыхтоўку да веснавой сяўбы ў саўгасе, перавёўшы ўсю працу па падрыхтоўцы на рэйкі сацспаборніцтва і ўдарніцтва.

6) Зараз-жа перабудаваць работу рабачкому ў адпаведнасьці з рашэньнямі V-га пленуму ЎсеЦСПС і рашэньнямі Рэсп. К-ту саюзу, перанёсшы ўвесь цэнтр работы ў цэх, брыгаду, групу, аказаўшы максымальную дапамогу прафгрупцэхарганізатарам у іх рабоце. Асаблівую ўвагу зьвярнуць на перабудову культмасавай работы ў саўгасе, падпарадкаваўшы яе выкананьню прамфінпляну ў саўгасе, правядзеньню ленінскай нацпалітыкі і дапамозе калгасам ў іх гаспадарчым замацаваньні, перанесшы лепшыя прыклады работы саўгасу ў калгасы.

7) Для паляпшэньня якасьці работы рабачкому і кантролю за выкананьнем, стварыць пры рабачкоме добраахвотніцкую групу кантролю і выкананьня.

8) Зараз-жа прыступіць да падрыхтоўкі да засеву калектыўнага гароду з разьлікам удзелу ўсіх рабочых саўгасу ў апошнім. Узмацніць работу закрытага разьмеркавальніка, арганізаваўшы вакол яго работы грамадзкі кантроль, зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на забесьпячэньне ўдарнікаў.

---

## ПАСТАНОВА

**прэзыдыуму рэспубліканскага камітэту саюзу РЖС аб рабоце клюбаў**

*Ад 20/I* 1932 *г.*

Прэзыдыум адзначае, што ня гледзячы на некаторае паляпшэньне работы саўгаскіх клюбаў, аднак гэта работа па паасобных саўгасах значна адстае ад агульных тэмпаў саўгаскага будаўніц-

тва і запатрабаваньня ўзрослай палітычнай і культурнай актыўнасьці рабочых мас.

Большасьць клюбаў не пераключыла сваёй работы на абслугоўваньне ўдарніцтва і сацспаборніцтва: адставаньне культработы ад галоўнейшых гаспадарча-палітычных задач і невыстарчальная прапрацоўка іх праз сыстэму клюбнай работы, невыстарчальная работа ў справе пралетарскага клясавага і вытворчага выхаваньня новых кадраў рабочых. Зусім слабае выкананьне дырэктыў партыі і саюзу ў справе правядзеньня нацыянальнай палітыкі, беларусізацыі і інтэрнацыянальнага выхаваньня.

Выходзячы з гэтага, прэзыдыум пастанаўляе:

1) Асноўнай баявой задачай у рабоце клюбаў павінна быць барацьба за правядзеньне генэральнай лініі партыі, даючы рашучы адпор праявам правага апартунізму, як галоўнай небясьпецы на даным этапе; барацьба з трацкісцкай кантрабандай, гнілым лібэралізмам і ўсялякімі контр-рэвалюцыйнымі плынямі, забясьпечваючы мабілізацыю рабочых мас да ўдзелу ў перабудове ўсіх грамадзкіх арганізацый тварам да вытворчасьці.

2) Работа клюбаў павінна быць падпарадкавана задачам саўгаскага будаўніцтва і шчыльна ўвязана з праграмай разгортваньня сацыялістычнай жывёлагадоўлі, рашучая барацьба за выкананьне колькасных і якасных паказальнікаў, шляхам разгортваньня масавай работы з ударнікамі, укараненьне новых мэтадаў сацспаборніцтва — гасразрахунковых брыгад і зьменна-сустрэчнага пляна ваньня.

3) Шляхам аб'яднаньня сіл і вярбоўкі культармейцаў, правільнага скарыстаньня сродкаў, прапанаваць рабачкомам арганізаваць адзіны плян культработы, сродкам якога зьяўляецца: барацьба за генэральную лінію партыі, прыцягненьне да ўдзелу ў культурнай рэвалюцыі саміх рабочых, рашучая барацьба за выкананьне прамфінпляну, паляпшэньне сацыяльна-бытавога і культурнага абслугоўваньня рабочых, барацьба за ўзорную арганізацыю працы і г. д.

4) Барацьба за кадры павінна быць першачарговай задачай клюбаў, таму клюбы павінны разгарнуць масавыя формы падрыхтоўкі культактыву, арганізатараў, брыгадзіраў, ударнікаў, новых рабочых, праз каротка-тэрміновыя курсы, вячэрнюю асьвету, вытворчыя гурткі, абмен вопытам, тэхнічную кансультацыю і г. д.

5) Прэзыдыум патрабуе ад рабачкомаў і культпалітсаветаў безадкладнага разгортваньня работы з новымі кадрамі рабочых, павышаючы іх клясавую сьвядомасьць і палітычную актыўнасьць, прыцягваючы да актыўнага ўдзелу ў саўгасным будаўніцтве.

6) Клюбы павінны адлюстраваць усе гаспадарчыя дасягненьні,

шляхам зьмяшчэньня ў дыяграмах выкананьня колькасных і якасных паказальнікаў, даючы лепшыя прыклады ўдарнікам, рашуча бічуючы безгаспадарчасьць, нядбайнасьць, прагульшчыкаў і г. д.

7) Прэзыдыум абавязвае рабачкомы і культпалітсаветы ўзмацніць работу па інтэрнацыянальным выхаваньні рабочых мас, безадкладны пераклад усіх гурткоў на беларускую мову і мову нацменшасьцяй і разгортваньне прапаганды нацпалітыкі партыі і мабілізацыя рабочых мас на барацьбу з вялікадзяржаўным шавінізмам, як галоўнейшай небясьпекай на даным этапе, з контр-рэвалюцыйным нацыянал-дэмакратызмам і шавінізмам розных колераў.

8) Прапанаваць культмасаваму сэктару скласьці для культпалітсаветаў прыкладны адзіны культплян.

9) Абвясьціць з 15-га лютага па 15-е сакавіка месячнік агляду работы клюбаў, прапанаваць культмасаваму сэктару скласьці праграму агляду работы клюбаў.

---

## ПАСТАНОВА

**Прэзыдыуму Рэсп. К-ту Саюзу РЖС аб ходзе выкананьня вытворчых праграм вінброварнымі і крухмальнымі заводамі сыстэмы Белмалпрамтрэсту.**

*Ад 20-1-*1932 *г.*

Заслухаўшы даклад Белмалпрамтрэсту, прэзыдыум Рэсп. К-ту саюзу РЖС адзначае:

1) Ход выкананьня вытворчых праграм па вінбраварох і крухмальных заводах за 1931 год прызнаць зусім нездавальняючым. Праграма па вінакурэньні выканана толькі на 72 проц., а крухмальнымі заводамі на 85 проц. Пры чым пачатак 1932 году ня даў ніякага пералому ў бок павялічэньня тэмпаў.

2) З боку дырэкцыі трэсту і дырэктароў саўгасаў ня прыняты адпаведныя рашучыя меры да забесьпячэньня заводаў сырцом. Стварылася яўная пагроза з-за адсутнасьці апалу. Бульбай вінбровары забясьпечаны наогул толькі на 44 проц. патрэбы, а крухмальныя заводы на 51 проц. Загатоўлена рознага збожжа ўсяго 11 проц. Завалочыцкі завод сырцу мае на 10 дзён, Станіслаўскі —на 15 дзён, Уваравіцкі—на 13 дзён, Высокаўскі—на 2 дні. Запас сырцу па ўсіх заводах ёсьць толькі на 20—25 дзён. Апалам большменш забясьпечаны толькі 4 заводы. Дзялянкі для апалу адвод-

зяцца на далёкай адлегласьці ад заводаў (Гаршчэўшынскаму бровару на адлегласьці 50 кілёмэтраў).

3) Надзвычай кепска пастаўлена работа на ўсіх заводах па арганізацыі працы—нізкая прадукцыйнасьць, абязьлічка, ураўнілаўка, адсутнічае гасразрахунак. Усе рабочыя працуюць пачасова, ня ўведзена яшчэ зьдзельшчына. У выніку чаго маецца павялічэньне сабекошту аднаго вядра сьпірытусу на 12 проц. супроць 1930 г. (зараз сабекошт аднаго вядра—2 р. 48 к.). Рост вытворчасьці на аднаго рабочага павялічыўся супроць 1930 г. толькі на 6,7 проц., а заработная плата—на 15 проц. Заўважаны выпадкі засьмечаньня вінакураў чужым элемэнтам (дваране, папы).

4) З прычыны нераспарадчасьці дырэктароў саўгасаў і слабага кантролю з боку трэсту, заводы сваю работу з восені пачалі з вялікім спазьненьнем, а 4 вінзаводы (Дойнічава, Раванічы, Рудабелка, Даращэвічы), ня гледзячы на тое, што ўжо даўно прайшлі ўсе тэрміны па аднаўленьні іх з кансэрвацыі, яшчэ і да гэтага часу ня пушчаны ў ход.

Выходзячы з гэтага прэзыдыум пастанаўляе:

а) Ускласьці адказнасьць за поўнае выкананьне праграм заводамі ня толькі на загадчыкаў саўгасаў, але і на рабочыя камітэты. Абавязаць дырэктароў і старшынь рабачкомаў безадкладна правесьці рабочыя сходы і мабілізаваць усю грамадзкую думку на ліквідацыю прарываў і поўнае выкананьне плянавых заданьняў З рабочых-ударнікаў вылучыць добраахвотніцкія брыгады па загатоўцы сырцу і апалу для заводаў. Ня менш двух раз у месяц на рабочых сходах і вытворчых нарадах абгаварваць пытаньні па выкананьні прамфінплянаў заводаў.

б) У 2-х дэкадны тэрмін перавесьці ўсіх рабочых заводаў на зьдзельшчыну. Даручыць трэсту распрацаваць асноўныя прынцыпы зьдзельшчыны і палажэньне і пасьля ўзгадненьня з Рэсп. к-там безадкладна разгарнуць масавую работу па арганізацыі гасразрахунковых сацыялістычных брыгад (чытай бюлетэнь № 9) і зьменна-сустрэчнага плянаваньня.

в) Фарсаваць перавод усіх заводаў на гасразрахунак. Дырэкцыі трэсту даць хутка мясцом адпаведныя інструкцыі і палажэньне. Удасканаліць гаспадарча-адміністрацыйныя адносіны паміж дырэк. тарам саўгасу і загадчыкам заводу, надаўшы апошнім больш праваў і абавязкаў і адказнасьці за становішча заводу.

г) Абавязаць усе рабочыя камітэты саўгасаў, дзе маюцца вінбровары і крухмальныя заводы, арганізаваць там цэхавыя рабачкомы, вылучыўшы прафгрупарганізатараў на ўсіх вучастках работ

і забясьпечыць імі поўнае кіраўніцтва і практычную дапамогу па сапраўднай перабудове там масавай прафсаюзнай работы.

д) Даручыць дырэкцыі трэсту вызначыць спэцыяльны фонд для прэміяваньня заводаў, якімі выконваюцца прамфінпляны. Дырэктаром і рабачкомам саўгасаў разгарнуць прэміяваньне лепшых ударнікаў рабочых і спэцыялістаў.

е) Трэсту ў бліжэйшы час арганізаваць спэцыяльныя курсы па дакваліфікацыі і перакваліфікацыі вінбраварнікоў і іншых спэцыялістаў, максымальна прыцягнуўшы на гэтыя курсы ўдарнікаў-рабочых для іх прасоўваньня па рабоце. Устанавіць сталы штат рабочых на заводах і вычысьціць усіх чужых элемэнтаў.

ж) **Падтрымаць заяўку дырэкцыі трэсту** перад адпаведнымі арганізацыямі:

1) Па забесьпячэньні заводаў сырцом (бульба, кукуруза, збожжавыя культуры) да разьмераў, прадугледжаных вытворчымі прамфінплянамі.

2) Па вылучэньні фондаў спэцвопраткі, па рабочым забесьпячэньні прыраўняць рабочых вінбравароў да рабочых заводаў Белдзяржсьпірту.

3) Па забесьпячэньні будаўнічымі матар'яламі 4-х адноўленых з консэрвацыі вінбравароў.

4) Па забесьпячэньні вінбравароў адпаведным аўтатранспартам.

Даручыць дырэкцыі трэсту ўзмацніць свой прамсэктар моцным кіраўніком, які-б забясьпечыў кіраўніцтва заводамі.

---

Зацьверджана Прэзыдыумам
ЦК Саюзу РЖС 2-III 1932 г.

# ПАЛАЖЭНЬНЕ

## аб статгрупах у рабачкомах (МК)

Ва ўсіх рабачкомах вылучаецца арганізатар па інфармацыі і статрабоце са складу членаў рабачкомаў, аслабанёны зусім ад усякай другой нагрузкі на тэрмін поўнамоцтваў рабачкому. Арганізатар кіруе ўсёй інфармацыйнай і вучотна-статыстычнай работай рабачкому і для гэтага арганізуе інфармацыйную і статыстычную групы. На чале кожнай групы стаіць кіраўнік са складу добраахвотнікаў. Кіраўнік групы нясе адказнасьць за арганізацыю і вядзеньне ўліку і своечасовае прадстаўленьне справаздачнасьці вышэйстаячым прафарганізацыям.

## Склад групы

Група камплектуецца з добраахвотніцкага актыву: пісьменных рабочых і работнікаў вучотна-статыстычнага пэрсаналу саўгасаў і ўстаноў.

## Задачы статгрупы

Асноўнымі задачамі групы зьяўляюцца:

1. Арганізацыя першапачатковага ўліку работы рабачкому, вучкамітэту і цэхкамітэту.

2. Выкананьне статыстычных работ па пляне вышэйстаячых прафарганізацый.

3. Нагляд за агульнай пастаноўкай уліку ў саўгасах і ўстановах, што аб'ядноюцца рабачкомам.

4. Выкарыстаньне для работы рабачкому ўстаноўленай статыстычнай справаздачнасьці саўгасаў.

5. На аснове статыстычных матар'ялаў саўгасу сыгналізаваць аб становішчы асобных вучасткаў работ рабачкому і аб'ядноемых прадпрыемстваў.

## Мэтады работы

1. Кіраўнік статгрупы складае плян вучотна-статыстычных работ рабачкому на аснове пляну статработ абласнога, краявога, рэспубліканскага камітэту саюзу і пляну работ рабачкому і яго арганізатараў.

2. На пасяджэньні рабачкому кіраўнік групы ставіць пытаньне аб арганізацыі статработ і выніках іх правядзеньня ў мэтах асьвятленьня становішча работы рабачкому.

3. Кіраўнік групы зьвязваецца ў сваёй рабоце з арганізатарамі рабачкому па пляне работ, арганізацыі і правядзеньні ўлікаў і выкарыстаньні матар'ялаў праведзеных улікаў.

4. Кіраўнік статгрупы ўдзельнічае ў нарадах, скліканых вышэйстаячымі прафарганізацыямі па пытаньні ўліку.

5. Статулікі, што праводзяцца рабачкомам, а таксама выкарыстаньне статматар'ялаў, атрымоўваемых ад саўгасаў ці ўстаноў, праводзяцца кіраўніком статгрупы з уцягненьнем добраахвотніцкага актыву.

УВАГА: Статблянкамі па ўстаноўленым улікам забясьпечваюць рэспубліканскія, краявыя, абласныя камітэты.

## Разьмеркаваньне работ

Кіраўнік статгрупы разьбівае ўсю работу па асобных пытаньнях. Адказнасьць за ўлік і справаздачнасьць па кожным пытаньні ўскладаецца на аднаго з работнікаў групы (з добраахвотніцкага актыву).

Разьмеркаваньне работы па асобных пытаньнях рэкамэндуецца наступным чынам:

а) Па ўліках, што праводзяцца непасрэдна РК.

1. Улік членаў саюзу.
2. Улік выбарчага і добраахвотніцкага актыву і падрыхтоўка прафкадраў.
3. Улік няпісьменных і малапісьменных і ахоп іх вучобай.
4. Работа клюбаў, чырвоных куткоў, бібліятэк і гурткоў фізкультуры.

б) Па ўліках, што праводзяцца саўгасамі і аб'яднаюцца рабачкомам.

Кожны месяц, а ў некаторых выпадках кожную дэкаду атрымоўвае справаздачнасьць ад дырэкцыі саўгасу па:

1. Выкананьні прамфінпляну, прадукцыйнасьці працы, здачы прадукцыі, зьніжэньні сабекошту, капіталаўкладаньні і інш.

2. Па колькасьці і складзе рабочай сілы.

3. Па зарплаце і арганізацыі працы па асобных відах яе (зьдзельнай, прагрэсыўнай, прафэсіях і разрадах).

4. Па становішчы забесьпячэньня рабочых саўгасаў (даныя ЗРК і адміністрацыі).

5. Па ахопе рабочых сацспаборніцтвам і ўдарніцтвам, прэміяваньне.

6. Па рабоце вытворчых нарад (паквартальна), паступленьне прапаноў, іх разгляд, выкананьне.

7. Па падрыхтоўцы кадраў, забесьпячэньні кадрамі.

8. Па ахове працы, рух няшчасных выпадкаў (даныя страхпунктаў, інспэктароў працы і адміністрацыі).

Загадчык эканом-статсэктарам
ЦК саюзу РЖС БАЛЦЕНКАЎ,

# ТАБЕЛЬ

**рабачкому (МК) па прадстаўленьні статыстычных вестак у рэспубл., краявы, обласны камітэты ў 1932 г.**

| №№ п. п. | Назва пытаньняў | №№ форм | Тэрміны ўліку | Час прадстаўленьня вестак у рэспубл., краяв., абл. камітэты |
|---|---|---|---|---|
| 1 | Аб колькасьці работаючых і членах саюзу.<br>Прадстаўляецца 4 разы ў год: 2 разы па поўнай праграме—па родзе, узросьце, па групах (сталых, сэзонных, часовых, спэцыял. і служ.) і нацыянальн. 2 разы па кароткай форме. | Картка тэрміновага ўліку.<br>Форма ЦК саюзу | 1 студзеня<br>1 ліпеня<br>1 красавіка<br>1 кастрычн. | 5 студзеня<br>5 ліпеня<br>5 красавіка<br>5 кастрычн. |
| 2 | Аб колькасьці і складзе выбарчага і добраахвотніцкага прафактыву. | Картка складу праф актыву. Форма ЦК саюзу | Пасьля перавыбараў | Праз 10 дзён з дня перавыбараў |
| 3 | Аб няпісьменных і малапісьменных прадстаўляецца два разы ў год. | Справаздача РК аб няп. і малапісьм. Форма УсеЦСПС | 1 лютага<br>1 мая<br>1 жніўня<br>1 лістапада | 5 лютага<br>5 мая<br>5 жніўня<br>5 лістапада |
| 4 | Аб прафсаюзнай бібліятэцы. | Справаздача праф. бібл. Ф. № 29 | 1 сакавіка | 5 сакавіка |
| 5 | Аб к-вах фізкультуры (2 разы ў год) | Справаздача калектыву фізкультуры | 1 лютага<br>1 жніўня | 5 лютага<br>5 жніўня |

| №№ п. п. | Назва пытаньняў | №№ форм | Тэрміны ўліку | Час прадстаўленьня вестак у рэсп., краяв., абл. камітэты |
|---|---|---|---|---|
| 6 | Аб гурткавой рабоце. (1 раз ў год) | Справаздача аб гурткавой рабоце Ф. № 31 | 15 красав.<br>1 жніўня | 20 красав.<br>5 жніўня |
| 7 | Аб усёй культпалітрабоце пры РК і клюбе. | Ф. № 32 | 1 мая<br>1 верасьня | 5 мая<br>5 верасьня |
| 8 | Аб шматтыражных газэтах пры саўгасе, колькасьці газэт, рабкораў і іх становішчы. | Форма ЦК саюзу | 1 лістапада | 5 лістапада |
| 9 | Па ўсеагульным навучаньні і палітэхнізацыі. | Ф. № 37 | 1 мая | 5 мая |
| 10 | Аб каротка-тэрміновых прафкурсах, праводзімых у саўгасах. | Ф. № 40 | Праз 10 дзён па сканчэньні курсаў | |
| 11 | Аб сацыяльна-бытавых установах | Форма ЦК саюзу | 1 чэрвеня | 5 чэрвеня |
| 12 | Аб становішчы грамадзкага харчаваньня і рабочага забесьпячэньня. (2 разы ў год). | Форма ЦК саюзу | 1 чэрвеня<br>1 сьнежня | 5 чэрвеня<br>5 сьнежня |
| 13 | Аб становішчы забесьпячэньня кватэрамі у саўгасах. | Форма ЦК саюзу | 1 верасьня | 5 верасьня |

| №№ п. п. | Назва пытаньняў | №№ форм | Тэрміны ўліку | Час прадстаўленьня вестак у рэсп., краяв. абл. камітэты |
|---|---|---|---|---|
| 14 | 2 разы ў год па паўгодзьдзях высылаецца ў рэспубл., краяв., абл. заявы ўноў прынятых у чл. саюзу. | Форма ЦК саюзу | Па паўгодзьдзях | 5 студзеня<br>5 чэрвеня |

Апрача таго, рабкчкому неабходна выкарыстоўваць у сваёй практычнай рабоце матар'ялы дырэкцыі саўгасу.

| №№ п. п. | Назва пытаньняў | №№ форм | Тэрміны ўліку | Час прадстаўленьня вестак у рэсп., краяв. абл. камітэты |
|---|---|---|---|---|
| 15 | Аб рабоце вытворчых нарад (улік праводзіцца па-квартальна). | | Студзень—красавік<br>Жнівень—кастрычнік | |
| 16 | Па ўліку сацспаборніцтва і ўдарніцтва (па-квартальна). | | Студзень—красавік<br>Жнівень—кастрычнік | |
| 17 | Аб ходзе выкананьня прамфінпляну:<br>а) Рух колькасьці пагалоўя жывёлы<br>б) Прыход і расход малака і мал. прадукцыі<br>в) Здача прадукцыі<br>г) Наяўнасьць кармоў, забясьпечанасьць<br>д) Ход будаўніцтва<br>е) Аб пераходзе на зьдзельшчыну і па цэлым радзе іншых пытаньняў | | | Кожны мес.<br>"<br>"<br>"<br>"<br>" |

Заг. эканом. стат. сэктарам
ЦК саюзу БОЛЦЕНКАЎ.




Галоўлітбел № 362. Тыраж 500. Зак. 308. Друкарня Камвузу.